# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 11 | 14 кастрычніка 1928 г. | № 11

ЗЬМЕСТ.



# Шкілет бяз мускулаў.

## За ажыцьцяўленьне комплекснай сыстэмы.

Здаецца, было-б дзіўным, калі-б мы запыталіся загадчыка ці настаўніка шматкамплектнай школы, ці праводзіцца комплекснае выкладаньне ў групах першага канцэнтру.

Звычайна загадчыкі школ, настаўнікі, інспэктары і інш. у сваіх справаздачах запэўніваюць аб сталым выкладаньні ў школах па комплекснай сыстэме. Гэта, бачыце, вымагаецца ўсімі афіцыйнымі прадстаўнікамі органаў народнае асьветы.

„Комплекс“ і «комплекснае выкладаньне» скланяецца ўсімі, хто толькі чуў гэтыя словы, хоць, быць можа, і ня зусім разумее сутнасьць і значэньне гэтых слоў.

Але калі мы прыгледзімся як належыць да сапраўднае працы школ, дык мы павінны будзем адкрыта і сумленна сказаць, што ў значнай колькасьці школ (нават гарадзкіх сямігодак) комплекснае выкладаньне толькі на паперы ды на языку пры справаздачах, а ў сапраўднасьці—чытаньне, лічэньне, пісаньне, гутаркі на кніжныя тэмы, праўда, часамі з ужываньнем слоў комплексных тэм. Але ўвесь гэты матар'ял нічым не сцэмэнтаваны, мёртвы, не ажыўлены.

Увесь матар'ял, які падносіцца вучням як матар'ял таго ці іншага комплексу, у большасьці ня мае ніякага жыцьцёвага значэньня, ня выцякае з мясцовых запатрабаваньняў, ня ўвязваецца з задачамі, якія высоўваюцца насельніцтвам раёну школы. Асабліва гэта трэба сказаць аб 3 і 4 групах (аб 5 і гаварыць пакуль што ня прыходзіцца).

Вельмі часта той ці іншы настаўнік „праходзіць“ усю пісаную праграму, ня выходзячы за сьцены школы.

Не праводзяцца экскурсіі ў вытворчасьць, няма арганізаванай калектыўнай працы вучняў, з якой хоць крыху ўвязваўся-б комплексны матар'ял, няма ўдзелу школы ў грамадзка-карысных працы. А бяз гэтага ці можна гаварыць аб комплекснай сыстэме ў школе? Ня можа быць комплекснае сыстэмы там, дзе няма ўдзелу школы ў вырашэньні задач, пастаўленых самім жыцьцём. Якія працоўныя і выхаваўчыя навыкі, якія практычныя веды мы дамо вучням пры праходжаньні, напр., комплексу «Падрыхтоўка да вясны і веснавая праца», калі мы будзем толькі чытаць, ды наогул гаварыць аб веснавой працы? Думаю, што адказ напрашваецца сам сабою.

Ні навыкаў, ні практычных ведаў пры такой пастаноўцы працы ў школе мы вучням не дамо. А нам, жа патрэбна выхоўваць практычных будаўнікоў сацыялізму. Ня толькі начыняць галовы павінны мы, але і выхоўваць, рыхтаваць да жыцьця. Вось аб гэтым мы неяк усе і забываем у нашай штодзённай практычнай працы. І забываюць тыя, хто непасрэдна кіруе справай выхаваньня.

А рабочыя і сяляне патрабуюць ад школы жыцьцёвых комплексаў, вырашэньня практычных задач сёнешняга і заўтрашняга дню.

Можна часткай вініць настаўніцтва ў такой пакавной папяровай комплекснасьці ў школах, але вінаваты ў гэтым і тыя, хто праводзіць сыстэму сацыяльнага выхаваньня ў жыцьцё, калі практычна на месцы не даюць указаньняў, як-жа будаваць працоўную школу і праводзіць комплексную сыстэму, як яе мысьляць марксысты-пэдагогі.

Мы зрабілі-б вялікую памылку, калі-б сказалі, што комплекснае выкладаньне ў нашых школах пастаўлена правільна. Сухі, кастлявы шкілет, бяз мускулаў, бяз нэрваў—вось у якім выглядзе выступаюць перад намі нашы комплексныя праграмы. Трэба шукаць сродкаў зрабіць іх поўнакроўнымі, жывымі, зьвязанымі з жыцьцём зямлі і насельніцтва, дзе гэтыя праграмы выконваюцца.

Бліжэй да запросаў жыцьця, бліжэй да арганізаванага ўдзелу ў жыцьці! У нас ужо вырысоўваецца напрамак, формы, у якіх можа выявіцца ўдзел нашых школ у жыцьці грамады, але нам трэба яшчэ вымераць абхват, шырыню нашага ўдзелу, знайсьці найлепшыя формы арганізацыі ўдзелу. Нам трэба знайсьці сынтэз паміж працай, як арганізаваным удзелам школы і жыцьця, здабытымі і здабываемымі вучнямі ведамі і ўспрыняцьцем і замацаваньнем неабходных у жыцьці выхаваўчых навыкаў.

Трэба ў гэтым напрамку паставіць працу ў дасьледчых і апорных школах і іх досьледы і дасягненьні зрабіць дастаяньнем масавых школ. Неабходна ў гэтым напрамку ўсіліць інструктаж, павесьці працу мэтбюро.

В. Самцэвіч.

# За марксыцкае выхаваньне ў школе.

Школа—гэта зброя клясавага панаваньня, а таму мэты і задачы школы вызначаюцца мэтамі і задачамі дзяржавы. Адгэтуль вывад, што сучасная грамада пралетарскай дзяржавы ў першую чаргу павінна паставіць дакладныя мэты выхаваўчай працы ў школе.

Задача нашай дзяржавы—будаваньня жыцьця на сацыялістычных падставах, а значыць і мэтай выхаваўчай працы ў школе павінна быць падрыхтоўка чалавека працы, падрыхтоўка барацьбіта за сацыялістычнае жыцьцё.

Дзеля гэтага першае запатрабаваньне, якое прад'яўляе наша ўлада школе, гэта—шчыльная сувязь яе з сучасным жыцьцём, і другое—пэўнае разуменьне зьявішчаў жыцьця як палітычных, так і эканамічных.

Сучасная школа павінна даць нам чалавека са здравым пралетарскім сьветапоглядам, які мы завём марксыцкім.

У чым жа сутнасьць марксыцкага сьветапогляду? Чаму ён лічыцца самым правільным і самым неабходным для пралетарскіх мас? Самая сутнасьць гэтага сьветапогляду грунтуецца на матар'ялістычным разуменьні акаляючага жыцьця. Гэта працілегласьць таму старому рэлігійнаму сьветапогляду, які давала буржуазная школа.

Калі буржуазная школа ў аснову ўсіх зьявішч жыцьця клала «дух», дык сучасная школа кладзе матэрыю.

Кожнае тлумачэньне, кожная гутарка настаўніка павінна зводзіцца да таго, што ўсё існуючае ў жыцьці магчыма растлумачыць тольке матар'ялістычнымі прычынамі. Што ўсё на сьвеце ўзьнікае, зьнішчаецца, зьмяняецца—толькі з матар'ялістычных прычын. Пачаць гэта трэба з самага блізкага дзецям, з прыроды, або з сельскай гаспадаркі, залежнасьць якой ад матар'яльных умоў відавочная. Ад зьмены форм гаспадаркі залежыць зьмена жыцьця сям'і і зьмена сацыяльнага ўкладу вёскі. Далей трэба паступова перайсьці да грамадзкіх зьявішчаў, і ня цяжка растлумачыць дзецям, што залежнасьці ад матар'яльных умоў зьмяняюцца і грамадзкія зьявішчы жыцьця. Напрыклад: дыфэрэнцыяцыя вёскі—ад гэтага зьмена ўсей грамадзкай працы ў гэтай вёсцы.

Пасьля зьнішчэньня аднаго—узьнікае другое, у прыродзе адно зьявішча пераходзе ў другое, і ў аснове гэтага ляжыць зьмена матэрыі. Калі мы сумеем добра растлумачыць гэта вучням, дык можам быць упэўнены, што яны будуць разумець сучаснае, а так сама адчуваць і неабходнасьць тэй барацьбы і будаўніцтва, якое стаіць перад намі, Толькі зразумеўшы, што марксызм ёсьць сродак ня толькі пазнаць жыцьцё, але і зьмяніць яго, магчыма будзе зразумець акаляючае такім, якім яно ёсьць сапраўды.

Марксызм ёсьць аснова ленінізму. Першае і другое разам павінна ахапляць усю школьную працу, і толькі такім шляхам мы зможам зблізіць школу з жыцьцём, рэвалюцыяй і рэвалюцыйнай сучаснасьцю, толькі такім шляхам мы зможам пазнаёміць вучняў з вопытам рэвалюцыйнай барацьбы.

Вялікае выхаваўчае значэньне мае Ленінскі куток у школе, дзе відочны некаторыя рэвалюцыйныя моманты дзейнасьці Леніна. Гэта набліжае ўсю вучнёўскую масу да вывучэньня Леніна.

Такая школа, якая сумее даць вучням пэўны марксыцкі сьветапогляд, цалкам выканае задачы, пастаўленыя перад сучаснай школай, дасьць стойкіх барацьбітоў, працавітых юных ленінцаў, якіх чакае наша савецкае будаўніцтва.

**М. Круглікава.**

*Аршаншчына.*

---

# Калёквіумы ў вясковай школе трэба аздаравіць*).

Кожны год вясковым настаўнікам прыходзіцца прысутнічаць на калёквіумах і прыводзіць сваіх вучняў да калёквіуму, і кожны год ім прыходзіцца адчуваць нейкую ненармальнасьць і нездаволенасьць як вымаганьнямі да вучняў, так і ходам саміх калёквіумаў.

Пытаньне гэта досыць важнае, і настаўніцтву і інспэктуры трэба яго стала абмеркаваць на старонках друку.

На калёквіумы зьбіраецца 25-30 вучняў з 2-3 альбо 4-х школ. Каб добра праверыць іх веды, патрэбна ня менш 2 дзён, прычым, улічваючы дзіцячую зморанасьць, праводзіць калёквіумы 6-8 гадзін у суткі. Дзеці павінны адчуваць сябе фізычна бадзёрымі, а таму яны павінны атрымаць хоць гарачы абед. Гэта station ўча адаб'ецца на іхнім самаадчуваньні.

Пісьмовыя працы па расейскай і беларускай мове павінны брацца сярэдняй цяжкасьці.

Пераказ не павінен быць у 2-3 старонкі; пры пераказах трэба ацэньваць ня толькі памылкі проці пераказу, а галоўным чынам уменьне вучня ўкладаць думку. А ў нас наадварот—хоць і добра ўклаў думку вучань, а калі зрабіў на 400-500 слоў 15-20 памылак проці правапісу, дык школы ня скончыць.

Па расейскай мове дыктоўку трэба браць са зборніку дыктантаў на пройдзеныя правілы, а ня тое, што пападзе пад руку з выпадковага расейскага падручніка па чытаньню. Ня ўлічваецца ўплыў беларускай мовы на ўладаньне мовай расейскай, і наадварот.

Матэматычныя веды правяраюцца пісьмовай задачай, якая даецца на гадзіну пасьля двух пісьмовых прац па мовах. Ад вучня вымагаецца хуткае разьвязваньне, пісаньне пляну, працу ня скончыў—адбіраюць. Мне здаецца, трэба даць вучню час і супакой для разьвязваньня задачы, бо ён не бярэ прыз на хуткасьць.

Далей. Я не кажу, што вучань не павінен умець хутка чытаць, але навыкаў у хуткасьці і выразнасьці мы даб'емся тады, калі вучань будзе мець па чым чытаць, а ў нас яшчэ зачастую адзін падручнік па мове даецца на 3-4 чалавекі. Як тут вучань набудзе належныя навыкі?!

Прыродазнаўству, грамадазнаўству і геаграфіі адводзіцца апошняе месца на калёквіумах. Чаго патрабуе праграма школы, на што зварочвае самую пільную ўвагу ў працу ўсяго году—тое на калёквіумах правяраецца ўскользь, агульнымі пытаньнямі ўсёй клясе, а дзеля граматычнага разбору, па часьцінах рэчы і сказу, вучня вызываюць да стала, дзеля вуснай матэматыкі выклікаюць другі раз, для геаграфіі да карты—трэці.

Гэтыя „іспыты“ цягнуцца да другой гадзіны ночы, а потым стомленых, запужаных і падчас галодных дзяцей адпускаюць дамоў.

Цяпер—ацэнка ведаў: хто даваў у гаду тую пісьмовую працу сваім вучням, якую падсунуў на калёквіуме, той здаволен: яго вучні зрабілі менш памылак; хто даваў іншыя працы, таго вучні нарабілі больш памылак—іх ня выпусьцяць са школы. Пісьмовыя працы ў працягу году ня ўлічваюцца; хоць-бы вучань добра пісаў увесь год, а на калёквіумах дрэн-

*) У парадку абмеркаваньня.

# Як узьняць пасьпяховасьць батрацка-бядняцкіх дзяцей

Адным з асноўных момантаў паўстаўшага перад намі пытаньня культурнае рэвалюцыі, якому мы, асьветнікі, павінны надаць найвялікшую ўвагу, зьяўляецца барацьба з адсталасьцю батрацка-бядняцкіх вучняў у нашых школах.

Гэты момант мае два бакі. Першы —матар'яльная забясьпечанасьць гэтых вучняў, якая залежыць ад бюджэтных асыгнаваньняў на гэту справу і ад грамадзкай ініцыятывы ў напрамку здабыцьця грашовых сродкаў для складаньня пры школах адпаведных фондаў.

Другі бок—гэта больш складаная спэцыяльная справа, справа належнага падыходу з боку настаўніцтва да батрацка-бядняцкай часткі нашага вучнёўства ў працэсе навучаньня і выхаваньня.

У чым-жа канкрэтна павінен вызначацца ўдзел настаўніцтва ў палепшаньні справы навучаньня батрацка-бядняцкіх дзяцей і якім прыблізна павінен быць зьмест гэтага ўдзелу?

У сэнсе матар'яльнай дапамогі павінна быць самая шчыльная сувязь школ з мясцовымі партыйнымі, камсамольскімі, каапэрацыйнымі арганізацыямі і камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі, увядзеньне іхных прадстаўнікоў у школьныя рады, даклады на сходах гэтых арганізацый аб стане школ. Гэта сувязь найлепш дапаможа абудзіць грамадзкую ініцыятыву ў напрамку складаньня пры школах адпаведных бядняцкіх фондаў. Школы, выконваючыя грамадзка-карысную працу, ставячы адпаведныя спэктаклі (маю на ўвазе ня больш чатырох платных у год)—таксама могуць утварыць невялікія фонды дзеля набыцьця хоць-бы пісьмовых прыладаў школьнай беднаце.

Пераходзячы да пытаньня аб падыходзе настаўніцтва да батрацка-бядняцкіх вучняў у працэсе навучаньня, трэба сказаць, што гэта пытаньне яшчэ не асьвятлялася на старонках педагагічнае прэсы, хоць даўно ўжо даведзена, што бядняцкія дзеці менш разьвіты і менш пасьпяваюць пры навучаньні. Тлумачыцца гэта сацыяльна-гістарычнымі прычынамі.

Да гэтага часу мы заўважалі адсталасьць бядняцка-батрацкіх дзяцей толькі ў канцы навучальнага году. Што рабілі пэдрады дзеля зьнішчэньня другагодніцтва за лік памянёных вучняў, апрача льгот пры пераводах і выпусках?

Нічога не рабілі.

А гэтыя палёгкі толькі шкодзяць, з тае прычыны, што яны адаб'юцца на далейшым ходзе навучаньня адсталай часткі вучняў.

Трэба ўжыць мэтады пэдагагічнага і пэдалёгічнага характару так, каб разьвіцьцё такіх вучняў у працягу ўсяго навучальнага году ішло паступова і паступова зьнішчалася-б іх адсталасьць.

Дзеля гэтага пэдрады павінны спачатку навучальнага году заняцца вывучаньнем сацыяльнага складу вучняў і налічча ў іх як фармальных навыкаў, так і агульнага разьвіцьця, каб ужыць у працэсе працы тыя ці іншыя мэтады, якія бязумоўна павінны быць прадугледжаны пры складаньні навучальных плянаў. У працягу першага трымэстру абхват праграмы для непасьпяваючых вучняў трэба звузіць і вызначаць адпаведныя больш лёгкія хатнія працы і заданьні, паступова падводзячы адсталых для належнага ўзроўню ўсяе клясы. У часе плянаваньня навучальнага матар'ялу і пасобных працэсаў, а таксама ў часе падагуленьня выклікаць у гэтай працы належны ўдзел непасьпяваючых, даючы ім адпаведныя канкрэтныя пытаньні. Калі ў клясе заняткі вядуцца спосабам дачы заданьняў, дык тут настаўніцтву трэба ўводзіць у заданьні больш дынамічны матар'ял і ўжываць актыўна-працоўныя моманты: досьледы, схэматызацыі, практыкаваньні, мадэліраваньні і графіку, а ў часе прапрацоўкі ўзмацняць кансультацыю.

Неабходна зьвярнуць увагу на набыцьцё імі моўных навыкаў, бо большасьць вучняў-беднякоў мае слабую канструкцыю гаворкі, баязьлівая і саромлівая. Таксама трэба разьвіваць у іх уменьне чытаць, навучыць працаваць над кніжкай; тут вялікае значэньне мае канспэктаваньне і складаньне тэзісаў па прачытанай кніжцы.

Пры адсталасьці па фармальных звычках неабходна выкарыстаць школьную арганізацыю, якая ў асобе больш моцных вучняў дапамагла-б адсталым.

Вучоту ў гэтай справе трэба даць належнае месца. Неабходна ўсе працы адсталага вучнёўства захоўваць, каб пасьля кожнага трымэстра можна было прасачыць увесь навучальны працэс іх і па ім у далейшым бачыць як моцныя, так і слабыя бакі працы.

*Магілеўшчына.* **Дабравольскі.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Пытаньне, узьнятае тав. Дабравольскім, лічым вельмі паважным і заслугоўваючым шырокага абгаварэньня. Таму рэдакцыя просіць усіх асьветнікаў выказацца па гэтым пытаньні, а таксама падзяліцца на старонках нашай газэты сваім вопытам у справе ўзьняцьця пасьяховасьці батрацка-бядняцкіх дзяцей.

---

на вышла,—ён у далейшую групу не пападзе. Кожны настаўнік імкнецца прапусьціць толькі сваіх вучняў, а іншых школ—зрэзаць.

Якія ж вынікі даюць такія «калёквіумы»?

У Калінкавіцкім раёне, Мазырскай акругі, вынікі такія: 40-50 проц. вучняў, дапушчаных да калёквіуму,—не прапускаюцца. Ёсьць школы, якія прыводзілі 5-8-11 вучняў, а далі выпуск усяго 1-2 вучняў, а то і зусім не далі выпуску.

Умовы працы зачастую не бяруцца пад увагу, а прычынай таго, што вучні ня скончылі школу, лічаць непадрыхтаванасьць да працы або нядбайнасьць настаўніка. Часта ў такое становішча пападае вопытны, стары настаўнік, які добра ведае сваю справу і старанна да яе адносіцца. Праз такія „калёквіумы" ён губляе веру ў свае сілы, ня ведае, дзе шукаць выхаду з такога становішча.

Калёквіумы ў вясковай школе трэба праводзіць па іншаму, трэба зьмяніць іх форму, унутраны зьмест, а ў працягу году палепшыць умовы працы для вучня.

Зьмены я прапаную такія:

1. Калёквіумы праводзіць 6-7 гадзін у суткі, лічачы абедзенны перапынак і абед для дзяцей, абудзіць зацікаўленасьць вучняў да калёквіуму.

2. Пісьмовыя працы браць для вучняў III і IV групы адпаведна іх разьвіцьцю і вымаганьням праграмы; у пераказах лічыць галоўным уменьне ўкладаць думку, улічваць гадавую працу вучня і па ёй судзіць пры выпусках.

3. Улічыць уплыў беларускай мовы на расейскую.

4. Па вуснай матэматыцы браць прыклады з жыцьцёвага матар'ялу, а не захапляцца стотысячнымі і міліённымі долямі адзінкі.

5. Не выклікаць кожнага вучня 2-3 разы да стала перад асобу камісіі, бо вучань палохаецца і нэрвуецца, а больш правяраць веды на месцы.

6. Вучняў выпускных груп задаволіць поўнасьцю неабходнымі падручнікамі па мовах, матэматыцы і граматыцы, каб было ня менш аднаго падручніка на двух вучняў.

**Наст. Малыхін.**

*Мазыршчына.*

---

# Спосабы і прыёмы пры навучаньні артаграфіі.

Спосабы і прыёмы, якія найчасьцей ужываюцца ў школьнай практыцы пры навучаньні правільнаму артаграфічнаму пісьму, неабходна адзначыць сьпісваньне і розныя віды дыктовак. Сьпісваньне, як адзін са спосабаў навучаньня артаграфіі, шырока практыкаваўся яшчэ ў дарэвалюцыйнай школе; былі часы, калі школа ня ведала ніякіх іншых спосабаў, апрача механічнага сьпісваньня.

У сучасны момант адносна сьпісваньня, як спосабу навучаньня правільнаму пісьму, існуюць супроцьлеглыя думкі. Адны кажуць (напр., Афанасьеў), што сьпісваньне ўсё-такі застаецца найбольш прыгодным спосабам навучаньня правільнаму артаграфічнаму пісьму. Другая частка мэтадыстых да сьпісваньня, як спосабу пры навучаньні пісьму, адносіцца адмоўна. Флёраў кажа, што сьпісваньне і дыктоўка—аднаго поля ягады, што нявольніцкае капіраваньне ні да чаго добрага не прывядзе. Міртаў у сваю чаргу зазначае, што сьпісваньне і дыктоўка—адзнака пэдагагічнай няпісьменнасьці настаўніка, і канчатковы вывад Міртава той, што сьпісваць наогул ня варта.

Разглядаючы довады адных і другіх, трэба згадзіцца з тымі, што кажуць: «Сьпісваньне, як мэтад навучаньня артаграфіі, павінна мець месца, толькі трэба выкінуць механічнасьць—**адгэтуль дагэтуль.** Павінна быць сьвядомае сьпісваньне. Напрыклад, настаўнік піша на дошцы сказ або слова; вучні сочаць за рухамі рукі настаўніка, пасьля чаго дзеці чытаюць, запамінаюць вобразы слоў; загэтым настаўнік сьцірае напісанае з тэю мэтаю, каб даць вучням капіраваць літару за літарай; дзеці тады пішуць цэлымі словамі.

Пяройдзем да другога спосабу навучаньня пісьму—дыктанту. Пад агульную назваю «дыктант» звычайна разумеюць дыктант слыхавы (гукавы), або праверачны; трэба памятаць, што апрача гэтага віду ёсьць яшчэ іншыя практыкаваньні: вольная дыктоўка, папераджальная, адваротная і творчая. Супроць дыктанту слыхавога выказваліся і выказваюцца шэраг пэдагогаў. Адмоўныя бакі гэтага віду дыктоўкі досыць значныя. Мы добра ведаем, што словы ў нашай мове пішуцца далёка ня так, як вымаўляюцца, а вучань звычайна піша так, як чуе,—адгэтуль у дзяцей выпрацоўваецца прывычка пісаць бязграматна—гэта раз, а другое—гэта від практыкаваньня чыста механічны. Ён шкодны яшчэ і тым, што не дае магчымасьці дзяцям выявіць ні актыўнасьці, ні самадзейнасьці. Такім чынам, мы павінны адзначыць, што слыхавы дыктант зьяўляецца шкодным артаграфічным практыкаваньнем.

Ідэю вольнай дыктоўкі высунуў Флёраў. Сутнасьць гэтага віду практыкаваньня заключаецца ў наступным. Настаўнік кажа дзецям, што заўтра будзе дыктоўка; на лекцыі папярэдняй дыктоўцы вучні, пад кіраўніцтвам настаўніка, паўтараюць правілы, зьвязаныя з дыктоўкай; самае практыкаваньне пачынаецца гутаркай настаўніка, каб выклікаць у вучняў зацікаўленасьць. Асноўная асаблівасьць гэтага віду дыктоўкі ў тым, што вучні вольна выбіраюць словы і сказы дзеля выражэньня тых думак, якія яны хочуць перадаць на пісьме. Такі від практыкаваньня будзе больш не як спосаб навучаньня артаграфіі, а як стылістычнае практыкаваньне па разьвіцьцю мовы. Такім чынам, вольная дыктоўка ня можа разглядацца, як спэцыяльны сродак навучаньня артаграфіі.

Іншы характар носіць папераджальны дыктант. Сутнасьць яго ў зьліквідаваньні навыкаў няправільнага напісаньня слоў, пагэтаму гэты від практыкаваньня павінен паўтарацца праз дзень-два да поўнага зьліквідаваньня памылак. Схэма гэтага віду дыктанту ў наступным. Высьвятляецца артаграфія слова, або і групы слоў; бярэцца слова, у якім вучань ці вучні зрабілі памылку; настаўнік правільна піша слова ці сказ на дошцы, коратка паўтараючы правілы; вучні адначасова запісваюць у сшыткі. Такім чынам, у дзяцей выпрацоўваецца практыка правільнага напісаньня слоў. У гэтым дадатны бок такога віду практыкаваньня.

Характэрны сваёю асаблівасьцю адваротны дыктант. У той час, калі пры слыхавым і праверачным дыктанце вучням прыходзіцца пісаць пад дыктоўку настаўніка, пры адваротным гэта робіцца якраз наадварот: вучні на чарзе дыктуюць сказы, а настаўнік запісвае на класнай дошцы, аднначасова тлумачачы, чаму ён іменна так піша той ці іншы сказ, тое ці іншае слова, а ня інакш. Само сабою разумеецца, галоўнае ня ў тым, што вучні самі дыктуюць, а ў тым, што яны маюць магчымасьць бачыць правільныя зрокавыя вобразы слоў, бачыць, як рука настаўніка правільна запісвае словы на дошцы і, урэшце, у тым, што вучні зараз-жа за настаўнікам запісваюць словы, сказы ў свае сшыткі без памылак.

Што датычыцца творчага дыктанту, дык у асноўным ён ня розьніцца ад папераджальнага і адваротнага. Таксама настаўнік той ці іншы сказ піша на дошцы, а вучні ўсьлед запісваюць у сшыткі. Падрыхтоўчая праца да творчага дыктанту заключаецца ў наступным. Настаўнік піша на дошцы прыклады; вучні падбіраюць падобныя словы—такім чынам, атрымліваецца цэлая група слоў, правільна напісаных. Пры творчай дыктоўцы сказы будуюць самі дзеці. Складаньне сказаў, іх стылістычная апрацоўка самімі вучнямі, плюс практыка артаграфічна-правільнага напісаньня гэтых сказаў праз сьпісваньне з дошкі,—усё гэта прадстаўляе сабой адно з найлепшых артаграфічных практыкаваньняў.

Як від правільнага навучаньня пісьму, практыкуецца яшчэ благапісаньне. Да гэтага віду адносяцца практыкаваньні, мэтай якіх зьяўляецца выпраўленьне заведама няправільна напісаных слоў у тэксьце. У даным выпадку задача вучняў—правільна запісаць у свае сшыткі словы, якія скалечаны рознымі спосабамі (прапушчана літара, замена іх тымі ці іншымі значкамі, адна—лічнік, а другая назоўнік і г. д.). Гэты спосаб шкодны тым, што вучні бачаць няправільны вобраз, няправільна напісанае слова, а гэта, як вядома, дрэнна можа адбіцца на правапісу гэтых слоў і сказаў.

Адгэтуль вывад: пры выпрацоўцы ў дзяцей правільнага пісьма неабходна карыстацца не адным якім-небудзь спосабам або прыёмам, а многімі, камбінуючы і чаргуючы іх паміж сабою.

**Антон Лёсік.**

*М. Койданава.*

# Гаруюць вучні.

(м. Лады, Аршаншчына).

Раней, год таму назад, у м. Лядах была кніжная крама, дзе меліся розныя кніжкі, а таксама і школьныя прылады. Вельмі добра было, калі была крама, якая задавальняла вучняў і насельніцтва рознымі паперамі і кніжкамі. Было так нядоўга. Напэўна, дзеля таго, каб менш траціць сродкаў, гэту кніжную краму зачынілі і гандаль школьнымі прыладамі перавялі ў спажывецкую каапэрацыю.

Кніжкі, папера і іншыя рэчы рэдка закупліваюцца. Вось цяпер то і гора стала. Калі прыдзе які вучань купіць паперы або сшыткаў, дык трэба стаяць каля прылаўку тры гадзіны, пакуль крамнік падасьць. Няма там ні патрэбных падручнікаў, ні паперы, ні сшыткаў. Ёсьць такія кніжкі, якія ляжаць па 2 гады, і іх ніхто ня купляе, бо каапэратыў закупляе такія, якія зусім непатрэбны. Калі-ж перастануць гараваць вучні.

**Макаеўскі.**

# Пра „фантастычныя“ перасоўкі і звальненьні.

Паскардзіўся селькор у нашу газэту, што адміністратары Ветрынскага райвыканкому занадта разгуляліся ў справе перакідак настаўнікаў (гл. допіс **«Адміністратарская цьвёрдалобасьць»**, «Сав. Белар.» № 223, ад 27 верасьня).

Як і належыла чакаць, з боку адміністрацыі пасьледавала абвяржэньне.

... «Пры гэтым паведамляем, што гэта заметка ніводным словам не адпаведае сапраўднасьці»,—пішуць аўтары абвяржэньня.

«Як відаць з заметкі, аўтар жадае аднабокавай хлусьнёй зьбрэхаць сабе аўтарытэт ў колах настаўніцтва. Аўтар заметкі сапраўды ёсьць самы цьвёрдалобы шкоднік»,—заяўляюць таварышы абвяргацелі.

«Ён скардзіцца на дрэнныя адносіны да настаўнікаў, малюючы колькасьць фантастычных перасовак»...—гаворыцца ў абвяржэньні.

Прачыталі мы гэта абвяржэньне і аж у пот кінула ад жаху:—як гэта нас падвёў селькор...

Але... Але таварышы абвяргацелі далучылі да свайго абвяржэньня выпіску з пратаколу прэзыдыуму райвыканкому ад 25 жніўня 1928 г.

Прачыталі мы гэту выпіску і адразу стала лягчэй на душы, бо, значыцца, селькор праў, значыцца «ініцыятыва» адміністратарамі была праяўлена.

Сапраўды, чытаем першы пункт пастановы:

«Выходзячы з таго, што настаўніца Баканаўскай школы **Халадкоўская** ў працягу мінулага году выявіла сваю поўную непрацаздольнасьць і неадпаведнасьць у школьнай працы—зьняць апошнюю з працы. Зусім па тых-жа прычынах настаўніка Дуброўскай школы **Паршонка**... таксама зьняць з працы».

Чытаем пункт другі гэтай пастановы.

«Прымаючы пад увагу, што некаторыя настаўнікі ў ранейшых школах скампрамэтавалі сябе як з боку пастаноўкі школьнае працы, так і грамадзкай—зрабіць перавод іх у другія школы»... Адным чынам, **4-х настаўнікаў**—у інш. школы.

У пункце 4-м райвыканком мяркуе перакінуць і зьняць **3-х настаўнікаў**.

Вось вам і «малюючы колькасьць фантастычных перасовак»...

Праўда, у адным з пунктаў пастановы райвыканкому гаворыцца, што «апошнія пераводы рабіць выходзячы з мэтазгоднасьці і па жаданьню саміх настаўнікаў»...

Ведаем мы, як гэта робяцца пераводы па жаданьню. Да прыкладу, у п. 2 пастановы гаворыцца: «перавесьці настаўніцу Астроўшчынскай школы **Віцкую** ў Заскарскую школу».

Даведалася настаўніца, што яе райвыканком перакідвае, як гэта кажуць, «к чорту на кулічкі», і хутчэй да райінспэктара.

— Таварыш інспэктар, не адмоўце, перавядзіце мяне лепш ужо ў Дубраўскую школу, бо інакш я зусім загіну.

— Кажаце, ў Дубраўскую? Што-ж падайце заяву і мы зробім пa вашаму— відаць, адказала раённая настаўніцкае начальства.

А ў абвяржэньні ўжо пішацца:

«З трох перасовак адна была зроблена на падставе заявы настаўніцы Віцкай аб пераводзе яе не ў Заскарскую школу, а у Дубраўскую. Хадайніцтва Віцкай здаволена поўнасьцю»...

Наш селькор, па словах абвяргацеляў, «зусім не заўважае адмоўных бакоў некаторых настаўнікаў»...

Настаўніку т. П. далі загадваць лепшай у раёне школай, сяляне абралі яго старшынёй рэвізыйнай камісіі спажывецкай каапэрацыі, а ён кінуў усё і паехаў працаваць у Менск»,—скардзяцца нашы абвяргацелі.

А як-жа бы, таварышы абвяргацелі? Ці адмовіліся-б вы паехаць з Ветрына працаваць у той-жа самы Менск?

Не, таварышы, з матар'ялаў відаць, што наш селькор быў праў, калі пісаў пра вашу «багатую ініцыятыву».

**В. Зайцаў.**

**Ад рэдакцыі:** Мы згаджаемся з тым, што некаторыя пераводы і звальненьні ветрынскія адміністратары можа і запраўды рабілі, „выходзячы з мэтазгоднасьці“, але такую вялікую ломку пры ўкамплектаваньні школ лічым, бязумоўна, ненармальнай.

# „Эканомія“ на школьным будаўніцтве.

Начытаўшыся, мусіць, пра шахцінскую справу, Расонскі РВК рашыў, што і ў раённым будаўніцтве можа быць таксама шахцінская справа, хоць і меншага размеру.

А тут тэхнік Гнядоўскі сам без РВК разьлічвае рабочых, дае нарады—што рабіць кожнаму рабочаму, сам закупляе будаўнічы матар'ял, як цэмант фарбу і г. д. (вядома, не на прыватным рынку).

Ня сьніцца сябрам РВК—мала што можа нарабіць тэхнік?! І вось РВК падумаўся сам купляць будаўнічы матар'ял.

Перш-на-перш ён купіў бляхі для даху новай Шарстоўскай школы (каля 170 пудоў). Расонскі РВК, вядома, ужо так не рабіў, як тэхнік Гнядоўскі.

РВК купляе бляху праз сваё Расонскае крэдытнае т-ва, а Гнядоўскі купляў праз акрсельсаюз ці іншую акруговую ўстанову.

Крэдытнае т-ва робіць налічэньне на матар'ял, а ў тэхніка гэтага няма, бо ён купляе адразу ў акруговай установе. Далей, тэхнік возіць матар'ял ад ст. Клясьціцы—за 20 кілём. ад школы, а РВК за 40—ад Расонскага кр-нага т-ва. З Полацку-ж да Клясьціц і да Расон прыблізна роўна. Вось РВК ужо і зрабіў «эканомію».

Але гэтага мала. РВК ня ўлічыў аднэй пэўнай рэчы, што трэба 170 пудоў жалеза 4-хкілёграмнага (аркуш, каб важыў 4 кілё), а калі аркушы цяжэйшыя, дык трэба больш. РВК бярэ бляху, абы бляха, а ці многа яе будзе, ці мала—да гэтага яму няма справы: ёсьць у каштарысе тэхніка Гнядоўскага 170 пудоў—валі 170 п., а што жалеза павінна быць 4-хкілёвае, дык гэта выдумкі спэцаў.

У выніку—не хапіла на дах Шарстоўскай школы 100 аркушаў бляхі. Дзесятнік пасылае тэлеграмы, тэлефануе ў РВК, і РВК адгукнуўся: высылаем. Але замест 100 выслалі 54 аркушы.

Рабочыя бяз працы (ім плоціцца за прагул па віне адміністрацыі). Дзесятнік пасылае фурманку ў РВК, але бляхі няма.

Рабочым плаціцца за прагулы, бо іх не адпраўляюць, спадзяючыся, што РВК прышле бляху.

А на сырыя ямчэ печы як цякло, так і цячэ.

Кончылася, урэшце, тым, што тэхнік Гнядоўскі сказаў, здаецца, дзесятніку, каб ён купляў бляху без РВК.

Зараз ужо бляха ёсьць, і мы штодня глядзім на яе і думаем, як гэта дакрыць страху, бо рабочых адаслалі ў Полацак.

Я, вядома, нічога ня маю супроць таго, што РВК узяўся наглядаць за сваім будаўніцтвам, але калі з-за гэтага нагляданьня дах Шарстоўскай школы падаражэў на 200 рублёў, дык нічога-б ня меў супроць, калі-б РВК і кінуў такое «нагляданьне».

**Петрачэнка.**

Расонскі р., Полаччына.

# Школьнае самакіраўніцтва.

Пэдагагічная і грамадзкая думка за апошнія гады шчыра працавала над справай вучнёўскага самакіраўніцтва ў школе.

Гэта справа разглядалася і абгаварвалася пэдрадамі, рознымі настаўніцкімі канфэрэнцыямі, піанэрарганізацыямі, камсамолам і наогул асобамі і ўстановамі, зацікаўленымі справаю асьветы, справаю выхаваньня моладзі, але канчатковаю, аднастайнага вырашэньня да гэтага часу не знойдзена.

Прынцып папярэдняга плянаваньня працы і апрацоўка зразумелых мэтадаў і шляхоў, па якіх павінна ісьці праца ва ўсіх галінах школьнага жыцьця, набылі сабе пачэснае месца і ў галіне школьнага самакіраўніцтва.

Характэрна ў гэтай працы тое, што амаль усе арганізацыі вучнёўскага самакіраўніцтва, высунутыя за апошнія часы, будуюцца такім парадкам, каб вучні выступалі, дзейнічалі не адзінкамі, а калектыўнай масай—грамадой.

Замест старасты і прадстаўнікаў клясаў з іхнымі радамі, уводзяцца камітэты, камісіі, гурткі, звеньня і іншыя згуртаваньні; гэтым новыя формы самакіраўніцтва і адрозьніваюцца як ад пасьлярэвалюцыйных формаў, так і ад формаў кіраўніцтва ў буржуазных школах.

Мы імкнёмся выхоўваць у нашых дзецях калектывізм, навучаем іх працаваць разам, грамадою, выяўляць грамадзкую ініцыятыву і здольнасьці.

Калектывізацыя ў самакіраваньні павінна выяўляцца на кожным кроку, пачынаючы ад першае і канчаючы сёмай кляcай. Арганізацыйны зьмест павінен па-клясна насіць такі характар:

Агульны сход клясы, пры ім настаўніца, або настаўнік і ячэйка піанэраў. Агульны сход выдзяляе са сваіх шэрагаў кляском, які падтрымлівае парадак у клясе, санком назірае за санітарыяй і гігіенай клясы, гаспадарчая камісія, якая ведае калектыўным набыцьцём кніжок, канцалярскіх і пісьмовых прыладаў, і прадстаўнік у пэдраду ад клясы.

Піанэры, як больш актыўная і арганізаваная частка вучняў, уваходзяць у кожную з памянёных клясных арганізацый па выбару на агульным сходзе клясы. Яны сваім жыцьцём і паводзінамі ў клясе і школе, а таксама і па-за школаю павінны быць прыкладам для ўсей вучнёўскай масы; кожны піянэр павінен імкнуцца, каб стаць аўтарытэтным сярод сваіх таварышоў-вучняў.

Кожная кляса мае прадстаўніцтва як у пэдрадзе, так і ў агульна-школьным самакіраваньні—выканкоме, прадстаўніком клясы ў выканкоме зьяўляецца кляском, а ў пэдрадзе—прадстаўнік, выдзелены клясаю, на якога ў штодзённым жыцьці ўскладваюцца абавязкі па нагляду за ўдзелам таварышоў у грамадзкай і гуртковай працы вучняў клясы, а таксама ён разам з клясскомам вядзе вучот прысутнасьці на лекцыях вучняў і прычын няпрыходу, спазьненьня, або непасьпяховасьці.

Агульна-школьная арганізацыя вучнёўскага самакіраваньня складаецца такім парадкам.

Агульны сход вучняў зьяўляецца законадаўчым органам у школе. Але пастановы сходу набываюць законадаўчы характар толькі пасьля ўзгадненьня іх з фарпостам піанэрарганізацыі і школьнай радай. Агульны сход зацьвярджае выканком, у які ўваходзяць прадстаўнікі ад усіх клясаў, фарпосту і прадстаўнік ад настаўніцтва. Выканком падзяляецца на аргкамісіі і культкамісіі, аргкамісіі маюць санкамісіі, гаспадарч. кам., нагляд за парадкам у часе перамен і ў клясах. Культкамісіі падлягаюць: рэдкалегія, драмгурток, спартгурток, харавы і музычны гурткі, газэтна-палітычны, вайсковы, працгурткі і іншыя грамадзка-карысныя арганізацыі, якія будуць знайдзены патрэбнымі.

Гэткая схэма вучнёўскага самакіраваньня зьяўляецца найбольш пашыранай формай самакіраваньня вучняў у школах гораду і за кароткі тэрмін існаваньня дала станоўчыя вынікі. Фарпосту і школьнай радзе ў гэтай арганізацыі патрэбна прымаць самы шчыры ўдзел і назіраць за тым, каб праца праводзілася плянава і сыстэматычна з належным удзелам вучнёўскае масы, бо ў іншым выпадку станоўчых вынікаў ад вучнёўскага самакіраваньня чакаць цяжка.

І. І.

---

**Таварышы-асьветнікі! „Савецкая Беларусь“ дапамагае вам у штодзённай працы па змаганьню на фронце культурнай рэволюцыі. Абавязак кожнага асьветніка—выпісваць і пашыраць сваю газэту.**

---

## Заняткі ў школах распачаліся своечасова.

(Смалявіцкі р., Меншчына).

У большасьці школ Смалявіцкага раёну заняткі пачаліся з 15-га верасьня г. году. Гэта яшчэ раз сьведчыць аб тым, што навучальны год можа быць пачаты ў тэрмін і скончан у тэрмін, калі на гэта будзе звярачвацца належная ўвага.

Некаторыя толькі з 15-га верасьня пачалі запіс дзяцей у школу. Праўда, такіх мала.

Наглядаецца вялікі наплыў дзяцей у школы ва ўсе групы, але больш усяго ў першую групу, у якую запісваліся дзеці 7 год; запісваюцца ў яе і дзеці 13 год. Некаторым школам прыходзіцца адмаўляць у прыёме, у першую чаргу дзецям больш заможнай часткі насельніцтва, а таксама дзецям 7 год; дзецям 13 год, якія прыходзяць запісвацца ў першую групу, прыходзіцца раіць наведваць лікпункт.

Блага абстаіць справа з некаторымі батракамі, якія зараз пасуць кароў, а таксама з некаторымі дзяцьмі беднаты, якія таксама пакуль што ня могуць наведваць школы.

Б. Дзяруга.

## Весткі з месц.

### ДРУГАГОДНІЦТВА Ў ЧЫГУНАЧНЫХ ШКОЛАХ.

**Гомель.** Падлічана, што трэцяя частка бюджэту чыгуначных школ ідзе на другагоднікаў. Пастаноўлена—у 7-ай і ў 8-ай групах другагоднікаў больш ня трымаць. Для іх намечана арганізаваць спэцыяльныя курсы па тых прадметах, па якіх яны адстаюць, напр. па матэматыцы і г. д.

### ПАЛІТШКОЛЫ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ.

**Гомель.** Дзеля ўзьняцьця грамадзкага выхаваньня настаўнікаў чыгуначных школ, намечана частку гэтага настаўніцтва прапусьціць праз вячэрнія палітшколы.

### СЯЛЯНСКІ ТЭХНІКУМ.

**Ворша.** Пэдрада Смальлянскай с.-г. школы (Коханаўскі раён) ухваліла арганізаваць нядзельны сялянскі тэхнікум выключна для сялян і парабкоў, працуючых на сельскай гаспадарцы. Абслугоўваць тэхнікум будуць ня толькі настаўнікі, але і вучні старэйшага курсу, не атрымліваючы за гэта ніякай платы.

### ПЕРШЫЯ Ў РАЙЁНЕ.

**Магілёў.** У вёсцы Загоранцы, Антонаўскага сельсавету, Чавускага раёну, будуецца першая ў раёне тыповая школа. Пад школу адведзена 6 дзесяцін зямлі. Усё будаўніцтва робіцца за кошт самаабкладаньня. Школа будзе каштававаць прыблізна 10,000 руб. Школа пачне працаваць у 1929-30 навуч. годзе.

АНРЫ БАРБЮС.

# НАСТАУНІК.

Была нязвычайная сьпякота. Мухі раямі жужжэлі ў гарачым паветры. Людзі стараліся хадзіць у засені ад шэрых дамоў на пляцу маленькага гораду Кавада, што ў правінцыі Сантандэр. Гэты пляц нічым не адрозьніваецца ад пляцоў іншых гішпанскіх або баскскіх гарадоў.

Праз вокны аднаго дому чуваць быў аднатонны шэпт. Гэта была школа. З сярэдзіны яна выглядала таксама, як і ўсе школы на сьвеце: голыя, суровыя сьцены, нізенькія лаўкі ў радок, на іх сядзяць вучні, а пасярод клясы настаўнік, які ў гэтых абставінах здаваўся велізарным.

Як і ўсе іншыя настаўнікі, ён павінен быў выяўляць увесь свой спрыт і цярплівасьць, каб затрымаць увагу вучняў і ўкараніць у іх хоць частачку нязьмерна багатых чалавечых ведаў.

Настаўнік зваўся Бальдэмэрэ Цоры. Гэта быў спакойны і дабрадушны, глыбока адукаваны чалавек. Яго акуратнасьць дзівіла ўвесь горад. Каб ён калі-колечы спазьніўся на лекцыі, дык усе падумалі-б, што памыліўся гадзіньнік. З яго ідэямі, разумеецца, не ўсе згаджаліся, асабліва-ж тыя, што змагаліся з кожнай новай і здаровай думкай,—гэтыя звалі яго «чырвоным».

Але ўсё-ж-ткі і ім, з іхным абмежаваным розумам, прышлося прызнацца, што можна быць «чырвоным» і адначасна з гэтым сумленным чалавекам. Нічога больш не заставалася, як паважаць яго. Але дзьве маючыя ўплыў у Кавада асобы, «чорнарызьнікі»—сьвяшчэньнік і вікарый, думалі інакш. Настаўнік быў ім асабліва не да густу таму,што апрача бязбожных поглядаў аб волі і аб агульным дабрабыце яны нічога іншага не маглі паставіць яму ў віну. Сьвяшчэньнік і вікарый пільна сачылі за школай, як за ўстановай, у якой фармаваўся розум будучага пакаленьня: хто ня хоча выпусьціць са сваіх рук будучыню, той павінен трымаць школу пад сваім уплывам.

У сучаснай Гішпаніі духоўнік мае права прысьці ў школу, калі яму ўздумаецца, каб праверыць, як вядзецца навучаньне. І вось, у гарачы дзень, сярод лекцыі, у клясу ўвайшло двое людзей у чорным. Яны ўселіся і сталі слухаць.

Цоры, як ні ў чым ні бывала, вёў далей лекцыю. Перад ім стаяў маленькі Хуаніто і нясьмела лепятаў: „Справядлівасьць, роўнасьць“...

Ступіўшы два крокі, пастар аказаўся перад хлапчуком.

— Ты што казаў?—спытаў ён злосным голасам.

Спалоханы Хуаніто нічога не адказаў, але Руіц, 14-гадовы хлапчук, лепшы вучань у клясе, жадаючы паказаць, што ён слухаў уважліва і ўсё запомніў, устаў і сказаў:

— Пане пастар, ён казаў пра роўнасьць усіх людзей.

— Гэта хлусьня!—закрычаў пастар, і яго голас задрыжэў ад злосьці.

— Гэта хлусьня! Гэта пярэчыць вучэньню сьвятой царквы! Бог ніколі не казаў, што ўсе людзі роўныя, і сьвяты Павал сьцьвярджаў, што паміж людзьмі няма роўнасьці!

Ён так крычаў, што на скронях пададуваліся жылы, а на вуснах выступіла пена.

Вікарый стаяў моўчкі, пачціва ўзьняўшы рукі да неба.

Настаўнік стаяў спакойна і стрымана зазначыў:

— Дазвольце, пане пастар...

— Што мне дазваляць? Што—роўтой.—Дазволіць, каб вы і надалей хлусілі і псавалі рабят гэтай манерай? Каб вы даводзілі, што ўсе людзі роўныя? Як вы можаце навучаць таму, супроць чаго быў сам бог? Ці зразумелі вы мяне? Дарагія дзеткі, слухайце, што я вам скажу: ваш настаўнік маніць вам.

Настаўнік зьбялеў. Ён задрыжэў, але ўсё-ж-ткі сказаў цьвёрдым і спакойным голасам:

— Пакіньце гэта.

Пастар усё больш расхадзіўся:

— Вы хлусіце! Вы хлусіце на вашых лекцыях! Вы асьмейваеце нашу сьвятую царкву! Што ёсьць справядлівасьць? Справядлівасьць—гэта справа боская! хрысьціянін павінен ведаць і слухаць толькі пра веру і любоў.

Гэтыя словы хрысьціянскай пакорлівасьці ён выкрыкнуў з такой злосьцю і нянавісьцю, што настаўнік спалохаўся, а дзеці ўсталі з месц.

— Ашуканец!

Ледзь настаўнік сказаў гэта слова, як Вікарый накінуўся на яго і схапіў за рукі, а пастар замахнуўся, каб ударыць.

Настаўнік вырваўся. Пачуліся два выстралы. Пастар махнуў уверх рукамі і паваліўся на сьпіну. Вікарый зваліўся побач з ім. Пачуўся трэці выстрал, і настаўнік таксама асунуўся.

---

Гэта здарылася летась у вялікай «культурнай» краіне з настаўнікам, які адважыўся казаць сваім вучням пра справядлівасьць.

Некаторыя правінцыяльныя газэты Гішпаніі пісалі пра гэты выпадак, але вялікія органы былі немы: яны існуюць толькі дзеля таго, каб маўчаць пра розныя няпрыемныя здарэньні.

# Наша мэтадычная канфэрэнцыя.

(Чавускі раён, Магілёўшчына).

Наша раённая мэтадычная канфэрэнцыя мела сваёй задачай даць сталую ўстаноўку ў надыходзячай школьнай працы настаўніцтва.

Падрыхтоўчая праца раённага мэтадычнага бюро да гэтай канфэрэнцыі распачалася яшчэ спачатку жніўня месяца і складалася з падліку ўсіх недахопаў у працы за мінулы навучальны год, усіх патрэб масавага настаўніцтва і вывучэньня зусім новых момантаў навучальна-выхаваўчай працы: неабходных для ўнясеньня ў плян працы школ.

У выніку праробленай, такім чынам працы паўстаў шэраг пытаньняў, якія былі шырока абгавораны настаўніцтвам. Для распрацоўкі іх было вылучана некалькі таварышоў, лепшыя з практыкаў-мэтадыстых.

Значную ўвагу канфэрэнцыя аддала справе вучоту школьнай працы. У працэсе гэтага абгаварэньня спыніліся на тых формах вучоту школьнай працы, якія павінны будуць існаваць ва ўсіх школах у надыходзячым навучальным годзе.

Далей разглядалася пытаньне аб мэтадах працы па разьвіцьцю пісьмовай і вуснай мовы.

Зусім новымі пытаньнямі, якія аб гаварваліся на гэтай мэтадычнай канфэрэнцыі, зьявіліся пытаньні аб антырэлігійным выхаваньні і ваенізацыі ў школах. Тут практычна даведзена было, як трэба ўвязваць гэтыя пытаньні з вядомымі тэмамі і падтэмамі тых або іншых комплексаў.

Таксама зусім новым пытаньнем зьявілася справа вучэбнай дапамогі батрацка-бядняцкім дзецям і мэтады правядзеньня яе. Да гэтага пытаньня настаўніцтва аднеслася асабліва ўважліва і надае яму вялікае значэньне.

Раўналежна са ўсёй гэтай працай значнае месца заняла папулярызацыя «Пэдтэхнікуму Дом», у выніку чаго 39 настаўнікаў запісалася ў яго слухачы.

Сялянскі.

**На шляху самаадукацыі.**

# Гісторыя мэтадаў школьнай працы.

Вядома, што мэтаду, які абхопліваў-бы сабою цалкам усе віды школьнай працы, няма: шлях пэдагагічнага працэсу характарызуецца камбінацыяй (сынтэзам) мэтадаў. А раз так, то знаёмства з мэтадамі і прыёмамі школьнай працы для настаўніка неабходна.

Як вядома, адны і тыя-ж мэтады пераходзяць з аднае эпохі ў другую. Адным са старажытных мэтадаў можна лічыць догматычны. У сярэднія вякі палітычныя і эканамічныя ўмовы патрабавалі выхаваньня выканаўца чужое волі. Настаўнік даваў дзіцяці гатовыя веды, веды гэтыя не падлягалі крытыцы, галоўным аружжам было слова, а галоўным органам успрыйманьня было вуха. Гэты мэтад—мэтад старое школы, мэта якой была навучыць дзіця законам і правілам, якімі чалавек і павінен кіравацца ў жыцьці.

З гісторыі вядома, што жыцьцё ў сярэднявякоўе мела замкнуты характар, заледзянелай формай. Галоўная задача сярэднявяковай школы--гэта ўстрыйманьне маладым пакаленьнем існаваўшых форм жыцьця бяз жадных зьмен. Лепшым сродкам да ўсяго гэтага было слова; пры дапамозе слова можна было намовіць пакору, загадаць, скаваць волю выхаванца і г. д.—адным словам, вучань павінен слухаць, выконваць і верыць безагаворачна.

Як бачым, мэтад гэты зусім не падыходзіць да ўмоваў нашай школы: ён носіць форму катэхізацыі, у ім ня відаць асобы чалавека, адсутнічае ўсякая актыўнасьць, фігуруе адзін настаўнік.

Але жыцьцё не стаяла на месцы: яно рухалася наперад і высоўвала ўсё новыя і новыя формы, а разам з гэтым і запатрабаваньні. І вось, у эпоху разьвіцьця гандлю, калі людзям прыходзілася наведваць чужыя краіны, прывозіць адтуль нябачаныя да таго часу рэчы, новыя ідэі і інш., калі абмяжованае і замкнутае фэўдальнае жыцьцё стала больш складаным, тады догматычны мэтад належна ня мог здаволіць; слова, як сродак перадачы, абмену думак таксама не магло здаволіць, бо, вядома, словам можна адзначаць тое, што перад вачыма, пераказаць-жа, ці перадаць другому пры дапамозе слова аб рэчах, якія знаходзіліся ў чужых краінах, было немагчыма: дзеля гэтага трэба было паказаць самую рэч, або яе абраз. Развіцьцю нагляднасьці, а стала быць, некаторым чынам і актыўнасьці дапамагала разьвіцьцё мелкай індывідуальнай саматужнай прамысловасьці. Дзякуючы ўсяму гэтаму, у школу ўводзіцца наглядчасьць у выглядзе паказу малюнкаў, мадэляў, табліц, пісаньне і маляваньне іх на дошцы. Такім чынам, тут ужо фігуруе не адзін толькі слух, а і зрок.

Ужо Амос Каменскі бараніў прынцып нагляднасьці: ён казаў, што догматычна-кніжнае навучаньне і догматычнае ўспрыйманьне ведаў—тое самае, што штучныя кветкі на сухім дрэве.

Наступным этапам у разьвіцьці мэтадаў была, так званая, маторная форма навучаньня. У гэты час дзецям сталі даваць у рукі розныя рэчы і прапанавалі ім ляпіць, маляваць гэтыя рэчы, рабіць мадэлі і г. д. Разьвіцьцё мелкае індустрыяльнае прамысловасьці выклікала неабходнасьць выхаваньня такіх людзей, якія ўмелі-б рабіць таварную каштоўнасьць і ведалі-б, якімі струмантамі, з якога матар'ялу, пры дапамозе якіх мускулаў і па якіх малюнках можна зрабіць гэту таварн. каштоўнасьць.

Прапаганду тэорыі працоўнага выхаваньня мы бачым у дзеячоў Вялікай Французскай рэвалюцыі Лепелецье і Дзюпона. Баранілі таксама гэты прынцып Морэльлі (1775 г.), Руссо і іншыя пэдагогі.

У канцы ўжо дзевятнаццатага стагодзьдзя ў Ангельшчыне пачынае разьвівацца так званы эўрыстычны мэтад. Аўтары гэтага мэтаду прыдавалі яму вялікае значэньне, называючы яго нават „славесным дасьледваньнем. Прыстасаваньне да прамысловасьці, якая шпаркім крокам ішла наперад, да новых умоў жыцьця патрабавалі ад чалавека самастойнасьці, знаходлівасьці, вынаходства, самастойнасьці мысьлі і разважаньня. Дзеля дасягненьня ўсяго пералічанага, пры эўрыстычным мэтадзе прымяняюцца навадзячыя пытаньні, пры дапамозе якіх бышцам-бы можна падштурхнуць вучня да лепшага ўспрыйманьня патрэбнага. Мы-ж у сваю чаргу павінны адзначыць, што эўрыстычны мэтад зусім недалёка адышоў ад догматычнага ў сэнсе разьвіцьця дзіцячай актыўнасьці і дзіцячай самастойнасьці: як пры адным, так і пры другім мэтадзе воля вучня абмяжоўваецца, а навязваецца воля настаўніка.

Разьвіцьцё буйнай прамысловасьці, рост гарадоў, фабрык і г. д. патрабуе ад падрастаючага пакаленьня максымальнага прыстасаваньня да акаляючых абставінаў, а дзеля гэтага патрабуецца максымум самастойнасьці, самадзейнасьці, уменьня прыстасавацца да сучасных умоў; у даным выпадку веды павінны быць здабыты самімі вучнямі пад кіраўніцтвам настаўніка. Вось гэта і высунула на сцэну дасьледчы мэтад.

Спачатку ў школу быў уведзены, так званы, акадэмічны дасьледчы мэтад, гэта значыць, што гэты мэтад ня ставіў сваёю мэтаю практычнае прыстасаваньне здабытых ведаў. Але з цягам часу ў школу стаў прабіваць сабе дарогу дасьледчы мэтад в працоўнай грамадзка-карыснай формай.

Такім чынам гісторыя пэдагогікі сьведчыць аб паступовым пераходзе як у тэорыі, так і ў школьнай практыцы, ад пасыўнасьці вучняў да ўсё большае і большае актыўнасьці, самадзейнасьці, а разам з гэтым і ўцягненьня школы ў грамадзкае жыцьцё. Але ўсё гэта не здавальняе пэдагагічную думку; пэдагогіка ня мірыцца з тым, што кожная школьная дысцыпліна адарвана адна ад другое (прадметная сыстэма) і высунула комплексную сыстэму.

Комплексная сыстэма вырасла на глебе дыялектычнага разуменьня гістарычнага працэсу. Яна цесна зьвязана з разьвіцьцём марксызму і ў нашай савецкай школе разьвілася дзякуючы перамозе пралетарыяту. Толькі Кастрычнік прынёс з сабою ідэю працоўнага выхаваньня, ідэю аб'ядваньня навучаньня навокал вывучэньня працоўнай дзейнасьці людзей.

А. Л.

# Непарадкі ў Слуцкай цэнтральнай бібліятэцы.

Наша цэнтральная бібліятэка займае два невялічкіх пакоі ў падвальным паверсе дому Культуры. Памяшканьне цеснае, і калі ўбіраецца многа чытачоў, няма дзе павярнуцца.

Апрача таго, у часе дажджоў вада пападае ў самае памяшканьне, і тут заводзіцца вільгаць. Ня раз ужо прасіў загадчык бібліятэкі, каб далі іншае, больш прыгоднае памяшканьне, але гэтага пры кватэрным крызісе, які пануе ў Слуцку, нельга зрабіць.

Нельга выратаваць памяшканьне і ад вады, бо, па тлумачэньню тэхнічнага нагляду, нельга зрабіць у памяшканьні рамонту. Тлумачыць гэта тэхнік тым, што будынак асеў і, дзякуючы гэтаму, зрабіліся шчыліны ў падмурку і сьценах, якія заладзіць ніяк нельга.

Таксама ня ўсё добра і з абслугоўваньнем бібліятэкі. Па каштарысу адпушчаюцца дзьве адзінкі, але чамусь гарсавет частку другое адзінкі перадаў клюбу Крэйнэса, а для бібліятэкі адпушчаецца ўсяго 12 руб. на броньвучня. Такое зьявішча ненармальнае, бо ў бібліятэцы ёсьць каля 1000 чытачоў, і аднаму чалавеку быць разам і загадчыкам бібліятэкі і бібліятэкарам ніяк нельга. Гэта нікога ня турбуе і лічыцца як-бы нармальным зьявішчам.

Усё гэта паказвае, што на цэнтральную бібліятэку зварочваецца малая ўвага, і з ёю, як культурную ўстанову, мала лічацца.

Неабходна, ня гледзячы на кватэрны крызіс, адвесьці пад бібліятэку лепшае памяшканьне і ўсе сродкі пакінуць за бібліятэкаю, а не перадаваць клюбу.

Мытлянец.

## *Наша перапіска.*

**НАСТАЎНІКУ СКП.** Гомельшчына. Каб няменць прыкрасьці за сваю працу, трэба яе весьці абдумана і талкова. Больш чытайце газэты, якія вам дадуць магчымасьць карыстацца правільнымі мэтадамі гэтай працы. Допіс „Нашы труднасьці“ друкавацца ня будзе.

**ШК. РАБОТНІЦЫ.** Бабруйск. Допіс «К перевыборам групкомов» надрукуйце ў сваей насьценнай газэце. У нас ня пойдзе.

**АСЬВЕТНІКУ.** Рагачэў, Бабр. акр. З карэспандэнцыі „Як ахоўваюцца і абараняюцца правы і інтарэсы настаўніцы-маці“ а таксама з вынятку з пратаколу пасяджэньня РКК відаць, што настаўніца Я-ч пераведзена з 3-яй на 4-ю групу дзеля лепшага наладжаньня пастаноўкі школы. Пры гэтым ні матар'яльныя, ні прававыя інтарэсы н-цы Я-ч ня церпяць. Друкавацца ня будзе.

**С. ВЯЛ.** Рагачэў, Бабр. акр. Тэму «Аб нашых падручніках» распрацуйце больш стала. Надрукуем. А такую маленькую нататку друкаваць няма сэнсу.

**В. МАСЛАКОВУ.** Мілаславічы. Ваша тлумачэньне наконт допісу „Дайце лепшага матэматыка“ зьмесьцім у тым выпадку, калі яго падцьвердзіць інспэктар, бо ў даным выпадку вы зьяўляецеся ў некаторай ступені зацікаўленай асобай.

друкарня „БДВ“. Галоўлітбел № 302.